# СПРАВА, ЯКАЯ ХВАЛЮЕ ЎСІХ

А. МІРОНАЎ.

Паказальны факт: варта з'явіцца ў плане Дзяржаўнага выдавецтва БССР новай кнізе пра гераічную барацьбу народных мсціўцаў—партызан супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у гады Вялікай Айчыннай вайны, як на гэтую кнігу сыплюцца шматлікія заяўкі кнігагандлёвых арганізацый. Нічога, што кнігі такой яшчэ і няма, а ёсць толькі назва яе, якая суправаджаецца больш чым скупой анатацыяй. Усё роўна заяўкі ідуць — і з кнігагандлёвых арганізацый нашай рэспублікі, і з іншых рэспублік Савецкага Саюза. І толькі выйдзе кніга ў свет, як увесь тыраж яе раскупляецца.

Я гавару пра кнігі, напісаныя ўдзельнікамі гераічнай партызанскай барацьбы. Такіх кніг наша рэспубліканскае выдавецтва з кожным годам выпускае ўсё больш і больш.

Ці выпадкова гэта? Вядома, не. Было б неапраўданым чакаць масавага з'яўлення шматлікіх партызанскіх запісак у самыя першыя пасляваенныя гады. Вялікі цяжар лёг у тыя гады на плечы ўчарашніх партызан і воінаў Савецкай Арміі, што вярнуліся дадому: трэба было аднаўляць усё, разбуранае гітлераўцамі на нашай гераічнай і шматпакутнай зямлі.

А прайшлі гады, улеглася, адстаялася перажытае, і само жыццё, маладое, пасляваеннае пакаленне чытачоў прад'явілі былым народным мсціўцам вялікі і сур'ёзны рахунак: праўдзіва, падрабязна і ярка расказаць пра тое, як насмерць стаялі партызаны за родную зямлю, як мужна і стойка прымалі на сябе жахлівыя ўдары браніраванага гітлераўскага кулака, як бязлітасна грамілі фашысцкія орды, аказваючы тым самым вялікую дапамогу рэгулярным часцям Савецкай Арміі, што змагаліся на франтах. Такія кнігі патрэбны, як хлеб і як паветра. І каму, як не ўдзельнікам партызанскіх баёў на тэрыторыі Беларусі, ствараць такія кнігі. Бо наша рэспубліка—рэспубліка класічнага партызанскага руху, і мемуары ўдзельнікаў яго становяцца каштоўным здабыткам не толькі чытачоў-беларусаў.

Ці ўсё, ці дастаткова робім мы, каб задаволіць вялікі попыт чытачоў на творы мемуарнай партызанскай літаратуры?

Перш, чым адказаць на пытанне, я зраблю невялікі экскурс у самую «партызанскую» тэму. Не сакрэт, што ў пераважнай большасці выпадкаў самі ўдзельнікі партызанскага руху не здольны падрыхтаваць свае запіскі і ўспаміны да друку на дастатковым літаратурным узроўні. Тлумачыцца гэта многімі прычынамі, і ў першую чаргу тым, што далёка не кожнаму дадзена ад прыроды ўменне валодаць літаратурным майстэрствам. Факты ў рукапісу—выключныя, падзеі—яркія, людзі—жывыя, цікавыя. Але напісана пра гэта так, што паглядзяць у рэдакцыі часопіса, у выдавецтве і бездапаможна развядуць рукамі: выдаваць нельга. І вось тут на дапамогу аўтару запісак і ўспамінаў павінен прыйсці (і прыходзіць!) пісьменнік. Так рабілася і робіцца і ў Расійскай Федэрацыі, і на Украіне, і ў Прыбалтыцы. Так і ў нас, у Беларусі: В. І. Казлову дапамагаў А. Кулакоўскі, В. Лівенцаву—Р. Няхай, А. Цітову—Г. Шчарбатаў, Каралёву і Прыбылю — М. Гарулёў, Н. Ратушнову, В. Паўлаву—аўтар гэтых радкоў.

Добра гэта ці дрэнна? Безумоўна, добра! Яшчэ Аляксей Максімавіч Горкі вучыў літаратараў дзейсна і шчодра дапамагаць «бывалым людзям» у літаратурным афармленні іх выключна каштоўных дакументальных матэрыялаў. Гэтая горкаўская традыцыя не страціла значнасці і сёння. Чым больш будзе ў нас кніг «бывалых людзей» — партызан, тым лепш для ўсёй нашай літаратуры, для ўсіх улюбёных у мінулае і цяперашняе краіны чытачоў Савецкага Саюза.

Непакоіць толькі тое, што кола пісьменнікаў, якія сумесна з аўтарамі ўдзельнічаюць у падрыхтоўцы да друку партызанскіх запісак і ўспамінаў, скарачаецца з катастрафічнай хуткасцю. Пасля вельмі ўдалай сумеснай працы з В. І. Казловым адыйшоў ад такой працы з іншымі аўтарамі А. Кулакоўскі. Гэтак жа зрабіў Р. Няхай, які таксама некалькі год назад разам з В. Лівенцавым стварыў выдатную кнігу «Партызанскі край». І ўзнікае трывожнае пытанне: што, калі і далей будзе так працягвацца?

Гэтая трывога становіцца яшчэ большай, калі ведаеш, якім шырокім патокам ідуць цяпер партызанскія запіскі і ўспаміны ў наша выдавецтва, у рэдакцыі часопісаў, у кабінет маладога аўтара СП БССР. Успаміны аб барацьбе ў тыле ворага ўжо закончылі ці заканчваюць былыя камандзіры партызанскіх атрадаў і брыгад, сакратары падпольных партыйных арганізацый тт. Храмовіч, Абушэвіч, Вятроў, Пакроўскі, Лебедзеў і многія іншыя. Калі прайсціся па іх рукапісах пісьменніцкім пяром, атрымаюцца выдатныя, надзвычай карысныя і патрэбныя кнігі. А прайсціся і няма каму. За гэтую працу амаль ніхто не хоча брацца, бо і цяжкая яна, і адказная, і не вельмі высакародная: у лепшым выпадку на кнізе будзе стаяць петытны радок — «літаратурная апрацоўка» і прозвішча пісьменніка, бо факт, што ў вельмі многіх газетных і часопісных рэцэнзіях на мемуарныя кнігі былых партызан, за рэдкім выключэннем, нават не ўпамінаецца прозвішча пісьменніка, які літаратурна апрацаваў рукапіс.

А вынік? Рукапісы ляжаць гадамі або адхіляюцца з-за літаратурнай недасканаласці. Аўтары іх абіваюць выдавецкія і рэдакцыйныя парогі, прапануючы любыя ўмовы—аж да адмаўлення ад ганарару, ад свайго прозвішча на вокладцы—толькі б убачыць сваю працу выпушчанай у свет!

Можа стварыцца ўражанне, што атрымліваецца тупік, з якога няма выйсця. На справе ж гэта не так, або больш правільна—так не павінна быць.

У пачатку красавіка ў нас, у Мінску, адбудзецца пашыранае пасяджэнне ваеннай камісіі Саюза пісьменнікаў СССР, у працы якога прымуць удзел пісьменнікі многіх рэспублік. Думаю, не толькі ганаровымі гасцямі, але і актыўнымі ўдзельнікамі гэтай нарады будуць і героі партызанскіх баёў на тэрыторыі Беларусі ў гады мінулай вайны. Актыўнымі таму, што адно з асноўных пытанняў літаратурнага форума—«партызанская тэма» ў савецкай літаратуры—і датычыць іх, і хвалюе не менш, чым любога савецкага пісьменніка. Нездарма ж у тыя дні, калі мы разам з Н. Ратушновым рыхтавалі да друку яго запіскі «Полк у паходзе», у стварэнні гэтага рукапісу прымалі ўдзел многія таварышы, якія змагаліся там, дзе і героі гэтай дакументальнай аповесці. Я ўпэўнены, не знойдзецца сярод былых народных мсціўцаў ніводнага, хто застаўся б абыякавым да высакароднай справы, якая хвалюе літаральна ўсіх!

Вось на гэтай нарадзе і трэба па магчымасці глыбока, а галоўнае правільна вырашыць пытанне аб «зялёнай вуліцы» для лепшых мемуарных твораў аб партызанскай вайне ў тыле ворага. Так вырашыць, каб назаўсёды выключыць з яго элементы ўсё яшчэ існуючай выпадковасці ў адборы твораў, паспешлівасці і неахайнасці ў падрыхтоўцы іх да выдання.

Што, у прыватнасці, можна зрабіць у гэтым напрамку ў нашай рэспубліцы ў бліжэйшы час?

Перш за ўсё трэба, каб не кіраўніцтва, а ўвесь калектыў Саюза пісьменнікаў БССР зразумеў і адчуў і агульную нашу, і кожнага з нас адказнасць перад шырокімі коламі чытачоў, якія патрабуюць і чакаюць дакументальных твораў аб героях партызанах. Вопыт паказвае, што сумесная праца аўтара ўспамінаў і пісьменніка, як правіла, дае станоўчыя вынікі. А калі так, дык ці не справаю гонару кожнага пісьменніка павінна стаць дзейсная горкаўская, літаратурная дапамога, хоць бы аднаму з былых партызан? Часу для гэтага мы выкраіць і можам і павінны. Не хапае часта толькі жадання ўзяцца за такую працу. А для таго, каб яно з'явілася, і патрэбна грамадскае рашэнне, цвёрдае рашэнне ўсяго пісьменніцкага калектыву.

Дрэнна і неапраўдана, што «партызанская тэма» амаль зусім знікла са старонак нашых «тоўстых» часопісаў. Бо ні адна з дакументальных кніг, выдадзеных за апошнія гады, не публікавалася ні ў «Полымі», ні ў «Немане», ні ў «Маладосці»! Праўда, гэта ўскладзе на рэдакцыю пэўныя абавязкі, рэдакцыйнаму калектыву давядзецца прарабіць з аўтарам вельмі вялікую і цяжкую работу па падрыхтоўцы рукапісу. Але ўсё гэта, я ўпэўнен, акупіцца ў сто разоў, і, трэба думаць, ці не ўзнімуцца тыражы нашых часопісаў ад таго, што чытачы будуць шукаць і знаходзіць на іх старонках аповесці аб тым, як гераічна змагаўся беларускі народ у час вайны з ненавісным і лютым ворагам.

Больш дзейсна аўтарам партызанскіх мемуараў можа дапамагчы і кабінет маладога аўтара СП БССР. Самім работнікам гэтага кабінета, вядома, з такой нагрузкай не справіцца. А хіба мы, пісьменнікі, не можам прыняць удзел у ёй добраахвотна, у парадку выканання свайго грамадскага абавязку? Хіба ўжо такая вялікая цяжкасць дэталёва адрэцэнзаваць той ці іншы рукапіс, пагутарыць з аўтарам, падказаць яму, што ў яго добра, што дрэнна, што і, галоўнае, **як** яшчэ трэба зрабіць?

Думаецца, смялей і шырэй павінна працаваць з аўтарамі мемуарных твораў і Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Вельмі вузкае і абмежаванае кола пісьменнікаў, якіх выдавецтва адважваецца запрашаць для літаратурнай апрацоўкі партызанскіх успамінаў. Такая нясмеласць не апраўдана нічым. Наспеў час пашырыць гэтае кола за лік маладых літаратараў, трэба шырэй прыцягваць да літаратурнай апрацоўкі рукапісаў кваліфікаваных рэдактараў выдавецтва, якіх пакуль да гэтай працы чамусьці ні ў якім выпадку не дапускаюць.

І нарэшце, апошняе, пра што варта таксама сур'ёзна пагаварыць на красавіцкай нарадзе ваеннай камісіі СП СССР. Ці не дзіўна, што за пяць апошніх год ні ў адным цэнтральным выдавецтве краіны (у тым ліку і ў «Ваенвыдаце»), не выйшла ў свет ніводнай кнігі ўдзельнікаў партызанскай барацьбы на Беларусі ў літаратурнай апрацоўцы беларускіх пісьменнікаў? А такія ж кнігі ёсць, іх нямала, і кнігі добрыя, якія атрымалі вельмі станоўчую ацэнку і нашай крытыкі, і чытачоў! Справа тут, мне думаецца, у тым, што таварышы з цэнтральных выдавецтваў не вельмі любяць і зусім не хочуць займацца такімі кнігамі. На прапанову ўключыць іх у план, як правіла, бывае стэрэатыпны адказ: «Калі гэтая кніга ўжо выдадзена ў Мінску, мы яе перавыдаваць не будзем». А варта прапанаваць арыгінальны рукапіс, які яшчэ не выдаваўся, і — «на жаль, у сувязі з перагружанасцю выдавецкага плана...» і г. д.

Няправільная гэта практыка, у корані няправільная! І чым хутчэй мы агульнымі сіламі пакончым з ёю, тым будзе лепш і для аўтараў мемуарных твораў, і для нашай літаратуры, і для ўсёй шматмільённай арміі чытачоў нашай краіны!

Партызанская тэма не зжыла і ніколі не зжыве сябе. Яна працягвае хваляваць усіх, каму дорага гераічнае мінулае нашай вялікай краіны, хто ўсёй душою любіць свой народ, сваю выдатную савецкую літаратуру. Гады ідуць. Старэюць, адыходзяць ад жыцця ўдзельнікі гераічнай партызанскай барацьбы. І калі цяпер, сёння ж не ўзяцца за працу, мы назаўсёды застанемся ў неаплатным даўгу перад тымі, хто ідзе нам на змену.

---

У Бабруйскім краязнаўчым музеі сабрана вялікая калекцыя прылад працы і хатняга ўжытку беларусаў ад старажытнейшых часоў да нашых дзён.

**На здымку:** навуковыя супрацоўнікі музея **В. Бакус** (справа) і **Г. Грыневіч** аглядаюць узоры адзення з сабранай калекцыі.

Фота **Ч. Мезіна.** (БЕЛТА).

---

## У абедзенны перапынак

На сцэне мінскай фабрыкі «Камунарка» не раз выступалі работнікі мастацтва сталіцы. Былі тут артысты Тэатра імя Я. Купалы, салісты оперы, брыгады філармоніі. Днямі сюды прыехаў вялікі калектыў артыстаў цырка з аркестрам. У абедзенны перапынак рабочыя прагледзелі цікавае прадстаўленне, у якім прыняў удзел амаль увесь калектыў цырка.

---

# „Меня, младу, подговаривают"... І гэта—для дзяцей?!

Тры — чатыры гады назад на ўрокі спеваў у школе глядзелі як на другарадны прадмет і аддавалі яму мала ўвагі. І толькі за апошні час заняткі па спевах з вучнямі пачалі весціся рэгулярна і стаўленне да іх з боку педагогаў пачатковых класаў змянілася. З мінулага навучальнага года ўрокі спеваў у беларускіх і рускіх школах рэспублікі праводзяцца па спецыяльных новых праграмах, выпушчаных Дзяржаўным навучальна-педагагічным выдавецтвам Міністэрства асветы БССР.

Аднак тыя, каму даводзіцца карыстацца праграмай, кожны раз знаходзяць у ёй мноства недахопаў. Падбор песень не заўсёды адпавядае навучальна-музычным і выхаваўчым мэтам. Многія песні для развучвання ў пачатковых класах слабыя па ідэйна-мастацкіх якасцях, з мала выразнымі тэкстамі або музыкай. Натуральна, што яны не могуць развіць у школьнікаў добры эстэтычны густ, выклікаць жывы водгук у дзіцячай душы. Звернемся да фактаў.

Такія песні, як напрыклад, «А зязюлька кукавала», «Як пад нашы вароты» і інш., па зместу не падыходзяць для школьнай праграмы. Асабліва вялікага наракання заслугоўвае апошняя. У ёй гаворыцца пра справы дарослых, пра тое, што «муж со женой разговор... ведут, разговаривают», стараючыся «многа денежек нажить». А вазьміце песню для другога класа «Там за речкой, там за перевалом», у якой, дарэчы, гаворыцца, што «там цыгане поют, они гуляют». Або вось песня для трэцяга класа:

Два молодых кузнеца
Куют замочки, поговаривают,
Меня, младу, подговаривают;
Сулят, дарят два замка со ключем.
(«Ішла сцяжыначка»).

Усё гэта, вядома, не дзіцячыя песні.

Уключаны ў праграму творы, у якіх мелодыя не супадае з паэтычным тэкстам. Напрыклад, у тэксце песні «У лясочку» Э. Тырманд (другі клас) з-за несупадзення лагічных націскаў парушана яе рытмічная структура. Мала цікавая па музыцы і песня С. Пружынскага «Расцём» (другі клас), дзе залішне расцягнутыя мясціны і паўторы перашкаджаюць хуткаму ўспрыйманню яе дзецьмі.

Любоў да спеваў і музыкі трэба выхоўваць у школьнікаў з першага класа. Таму правільны падбор песеннага рэпертуару адыгрывае вельмі істотную ролю. На жаль, складальнікі праграмы не паклапаціліся, каб падабраць творы самыя разнастайныя і багатыя па тэматыцы. Вось чаму амаль няма ў праграме беларускіх песень аб Радзіме, працы і школьным жыцці. Затое, скажам, у праграме для першага класа сустракаюцца аднатыповыя песні: «Пайшоў коўзацца каток», «Бяжы, коцік», «Вось які мурлыка» або «Дуда», «Дудка», «Дудачка», «Саўка і Грышка ладзілі дуду» і г. д. Такая тэматычная аднастайнасць музычнага рэпертуару адбівае ахвоту ў вучняў.

Каб пазнаёміць вучняў з асновамі двухгалоснага спявання, трэба вельмі старанна падбіраць песні, у якіх другі голас быў бы вельмі яркі, напеўны, лёгка запамінальны і меў бы самастойную меладычную лінію. Апроч таго, тэсітура такіх песень павінна быць зручнай, тэмпы — не хуткімі. Толькі тады вучні здолеюць усвядоміць і адчуць па нотнаму запісу і на слых узаемасувязь першага і другога галасоў. Вось праграма для трэцяга класа ўказвае на «спяванне песень аднагалосных з элементамі двухгалосся (у другім паўгоддзі)». Аднак прыведзены песенны матэрыял таксама ўступае ў супярэчнасць з музычна-тэарэтычнымі патрабаваннямі праграмы. Замест таго, каб пачынаць развучваць песні з элементамі двухгалосся з другога паўгоддзя, рэкамендуюцца ўжо ў першым паўгоддзі непасільныя для выканання трэцякласнікамі двухгалосныя песні «Юрачка», «Як крыніца цячэ».

Няўдалы падбор песень для развучвання ў трэціх класах у першым паўгоддзі заключаецца яшчэ і ў тым, што тэксты дзвюх з іх фігуравалі раней, але з другой музыкай. Такія песні «Пастушок» М. Чуркіна на словы Я. Журбы (трэці клас) і «Пастушок» П. Падкавырава на той жа тэкст (для першакласнікаў). Незразумела, навошта спатрэбілася рэкамендаваць настаўнікам развучваць з выхаванцамі песні розных кампазітараў на адзін і той жа тэкст?

Беларускія песні і песні братніх народаў уключаны ў школьную праграму не ў роўнай прапорцыі. І якраз назіраецца ўхіл да зніжэння колькасці беларускага песеннага рэпертуару. Асабліва гэта відаць на прыкладзе праграмы для чатырохкласнікаў, дзе ў першым паўгоддзі яны павінны вывучыць усяго чатыры беларускія песні з семнаццаці астатніх. Прычым дзве з іх не пад сілу вучням, узровень музычна-слыхавога развіцця і магчымасці якіх яшчэ вельмі абмежаваныя. Гэта песні «Новы край» і «Песня пра Заслонава», якая мае складаную вакальную лінію. Песню «Піянерская лагерная» П. Падкавырава, на наш погляд, варта было пакінуць толькі ў праграме пятага класа (яна чамусьці трапіла і ў праграму чацвёртага класа). Тое ж датычыць і «Піянерскай паходнай» Ул. Алоўнікава.

Матэрыял па слуханню музыкі таксама не ўсюды раўнамерна і разумна размеркаваны. Так, у першым класе прадугледжаны для слухання музыкі адны толькі беларускія творы і няма ніводнай п'есы рускай класікі, зарубежных і савецкіх кампазітараў.

Не ўсе з рэкамендаваных песень для развучвання са школьнікамі выдадзены. Таму выкладчыкі, асабліва ў сельскай мясцовасці і ў раённых цэнтрах, адчуваюць вялікія цяжкасці з-за недахопу рэпертуару. Даўно наспела неабходнасць выдаць спецыяльныя дзіцячыя песеннікі і зборнікі школьных песень. Творы беларускіх кампазітараў добра было б запісаць на магнітафонную плёнку, каб выкарыстоўваць запісы на занятках.

Праграма па спевах для беларускіх і рускіх школ рэспублікі мае патрэбу ў істотных зменах, у выпраўленні многіх недакладнасцей у назвах песень і прозвішчаў аўтараў тэкстаў. Пры паўторным перавыданні ў яе павінны быць уключаны высокія па ідэйных мастацкіх якасцях песні, якія ўслаўляюць нашу вялікую Радзіму, партыю і гераічны савецкі народ.

М. ГРЫГАРОВІЧ.

---

# ПЕСНЯ ПРОСТАЯ, МУЖНАЯ

**Да 50-годдзя Аляксея Зарыцкага**

Імя Аляксея Зарыцкага трывала ўвайшло ў беларускую савецкую літаратуру. Яго пяру належаць паэмы, балады, казкі, вершы публіцыстычныя, лірычныя, сатырычныя, шматлікія пераклады з рускай, украінскай, польскай, нямецкай і іншых моваў.

Тэматыку і пафас творчасці Зарыцкага характарызуюць ужо назвы яго паэтычных цыклаў («Пра дні вялікіх бітваў», «Упэўненасць», «На гонях і рыштаваннях», «Вершы пра Мінск») і кніжак («Праз бурныя парогі»).

Паэтам адлюстраваны шляхі, пачуцці і роздумы пакалення, да якога ён належыць. Гэтае пакаленне перажыло дзве вялікія вайны, свядомае жыццё яго пачыналася пасля Кастрычніка, яно гартавалася ў гады грамадзянскай вайны і першых пяцігодак, вынесла на сваіх плячах цяжар Айчыннай вайны. Таму зразумела, што ў творчасці песняра — прадстаўніка гэтага пакалення — знайшлі сваё ўвасабленне

Юнацкая мара,
Бітваў грымоты,
Шчасця ясноты,
Веліч радзімы
Любімай
І славы яе святло...

Для Зарыцкага сутнасць паэтычнай працы — «старанна збіраць для тысячы сэрцаў новыя скарбы». У яго вершах, баладах, казках багата дасціпнай назіральнасці, шчырых пачуццяў, у яго паэмах мноства ўмела вылепленых характараў, дынамічнае дзеянне, рэалістычныя фарбы.

Творчы шлях Зарыцкага — шлях таленавітага, працаздольнага паэта, які «вучыўся пяснярскаму... рамяству ў вопратцы слаўнай, салдацкай...» Гэтыя словы Зарыцкага з верша «Паэту-салдату» непасрэдна датычаць і яго самога.

За плячыма аўтара «Эпічных фрагментаў» (1932), дваццацігадовага юнака, быў небагаты жыццёвы вопыт выпускніка сярэдняй школы, электраманцёра на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце, які актыўна выступаў у бабруйскай газеце «Камуніст» (яе тады рэдагаваў Міхась Лынькоў) і ў літаратурным дадатку да гэтай газеты. Да пакалення, з якім Зарыцкі ішоў у літаратуру, належаць і яго землякі — Алесь Жаўрук, Хвядос Шынклер, Васіль Вітка, Сяргей Грахоўскі, Барыс Мікуліч і інш. Ва ўсіх іх тады, кажучы словамі Зарыцкага, «песня пад сэрцам складалася новая, гэткая простая й мужная, пра нашу работу, пра сонца вясновае, пра наша жыццё, маладое і дружнае» (1931).

У Зарыцкага ж — аўтара паэм «Аповесць пра залатое дно», «На дзвінскіх парогах», «Пяцёра», «Таварыш Саша», «Пабрацімы», «Наш сын», «Світанскія сады», шматлікіх зборнікаў, выдадзеных у Мінску і Маскве, — грунтоўная творчая культура, набытая ў гады вучобы ў Маскве (1932—1938), суровы ваенны вопыт. Зарыцкі служыў у Савецкай Арміі ў 1938—1946 гг. На вайне ён быў спачатку ў паветрана-дэсантных войсках, а пасля ў армейскім палітаддзеле.

Уся разнастайнасць творчасці паэта паўстае перад намі ў новым яго зборніку — даволі ёмістай кнізе «Размова з сэрцам» (Мінск, 1961). Гэта, па сутнасці, выбраныя творы Зарыцкага. Сабраныя пад адну вокладку, яны падкрэсліваюць асаблівасці яго паэзіі.

Чытаючы гэты зборнік, звяртаеш увагу на тое, што аўтар не ўключыў сюды, напрыклад, такую не з надта моцных сваіх паэм, як «Світанскія сады». Гэта сведчанне яго патрабавальнасці да сябе. Апроч таго, пераконваешся, па-першае, што зроблена паэтам багата, па-другое, што ў эпічных творах ён дасягнуў большых поспехаў, чым у лірыцы.

Працуючы ў малых жанрах паэзіі, Зарыцкі закладаў падмурак, на якім пасля вырасла «Аповесць пра залатое дно». Чытаючы, напрыклад, такія рэчы часоў напісання «Эпічных фрагментаў», як сюжэтныя вершы «Чортава баржа», «Вясна 1929 года», «Перабежчык» і некаторыя іншыя, пачынаеш разумець, што для творчасці Зарыцкага назва першага зборніка аказалася прароцкай.

Зазначаючы гэта, мы зусім не збіраемся сцвярджаць, нібыта ў Зарыцкага няма поспехаў у лірыцы. Яны ёсць. Дастаткова прыгадаць хаця б такія яго вершы, блізкія па фактуры да народна-песеннай плыні, як «Пралескі», «Дзяўчына і каваль», «Хавае ўсё да кроплі сэрца строга...», «Лебедзі». Або такія вершы, у якіх арганічна сплаўлены лірыка і публіцыстыка, як, скажам, «Размова з сэрцам» і інш.

У вершах «З паходнага блакнота», «Ленінградцы пад Талінам», «Ідзе салдат», «Спатканне ў Івацэвічах», «Было гэта ля Трансільваніі», у баладах «Заслонаў», «Як хадзілі нашы хлопцы з Каўпаком» паэт услаўляе савецкага салдата, партызана, змагара за свабоду Айчыны і заняволеных фашызмам народаў Еўропы.

Радасцю стваральнай працы прасякнута «мінская сюіта» — вершы «Карабель», «Мінскія аддарункі», «Нецярпенне» і інш.

У творах, навеяных дарогамі вайны і міру, — падкрэсленая грамадзянская тэндэнцыя: паэт абвінавачвае капіталістычны свет, цёмныя сілы фашызму. Гэтым творам уласціва палітычная злабадзённасць, яны напісаны сапраўды «весомо, грубо, зримо» («Размова з сэрцам», «Лепшая мова» і многія іншыя), гучаць і як споведзь, і як заклік да змагання за мір.

«Размова з сэрцам», бадай, адзін з лепшых вершаў паэта (дарэчы, гэты твор даў назву ўсёй кнізе выбранага).

...Бухенвальдскі лес. Пяюць салаўі. Але тут няма нават мясцінкі, на якую не ўпала б кропля крыві чалавечай або сляза. Сягоння ў Бухенвальдзе—музей. Тут сабраны самыя жахлівыя ў свеце «экспанаты» — балючы напамінак пра зверствы фашызму. Чалавецтва павінна помніць пра жахлівае мінулае Бухенвальда, каб яно ніколі і нідзе не паўтарылася.

Сэрца вязня там ёсць адно,
Навылёт прабіта яно.
Тое сэрца прабілі нажы
І свінец эсэсаўскіх куль...

Магчыма, гэта сэрца «камуніста старога, які поплеч з Тэльманам біўся ў баях», а можа «задуменнага юнака» — серба, француза ці паляка. Паэт вядзе размову з сэрцам закатаванага фашыстамі бухенвальдскага вязня.

Можа сэрца ты лепшага друга
майго?
Праз усю маладосць я прайшоў
поруч з ім.
Я шукаю яго, не знаходжу яго
Столькі лет,
Столькі зім.

Можа сэрца ты дзеўчыны той,
Што калісьці любіла мяне...

Гнеў да «недабітка-забойцы фашысцкага», што «Бухенвальды збіраецца нам будаваць... праз некалькі год», нараджае ў душы паэта вострае адчуванне: гэта не чужое сэрца, гэта сэрца самога паэта...

Ты — маё.
Не загінуў я, не,
Бо мільёны і сэрцаў яшчэ
І грудзей
Ёсць на свеце ў мяне...

І мільёны сэрцаў, што б'юцца ў грудзях жывых, не дапусцяць паўтарэння трагедыі...

Большасць твораў паэта прысвечана ўслаўленню стваральнай працы; яно і ў названых вышэй творах пра Мінск, і ў вершах з паездак па роднай краіне, і ў лірычных маналогах пра гады дзяцінства і юнацтва. Гэтая тэма мае свой выток у «Эпічных фрагментах». І ў далейшай творчасці паэта любімы яго герой — чалавек працы. Любіць Зарыцкі вобраз каваля. Вымярае вартасць жыцця чалавечага мерай зробленага чалавекам. Ён ганарыцца велічнымі здзяйсненнямі краіны ў пасляваенныя гады («У дарозе», «Калач», «Пяцімарск», «Равеснік мора», «Сустрэча з земляком»).

Верш Зарыцкага блізкі да творчасці народнай, з якой паэт чэрпае фарбы і вобразы. Гэта відаць хоць бы ў такой «афарыстычнай» мініяцюры:

— Ластаўка,
Адкуль ты прыляцела?
— З Ніла.
— Як ты ў дальнім краі,
Раскажы, жыла?
— Там прывольна, цёпла,
Многа там святла,
Толькі поўнач хмарную
Там я часта сніла.

Паэту часта ўласцівы графічная строгасць малюнка, фізічная адчувальнасць вобразаў. Ён умее расказаць аб працы так, што, чытаючы яго твор, міжволі адчуваеш жаданне зайсці, скажам, хоць бы ў тую кузню, апісаную так хвалююча:

Ясны дзень.
Свіргочуць ластаўкі
Так высока ад зямлі.
Націскаюць на ўсе застаўкі
Маладыя кавалі.

Жар гарыць, што груда золата,
І жалезны брус пад молатам,
Пад рукамі гнецца спорнымі,
То звініць,
То загудзе.
І сапуць мяхі ля горана,
Кузня ходырам ідзе...

Трапілі, на жаль, у зборнік выбранага і вершы, якія, безумоўна, можна было і не перавыдаваць. Мы маем на ўвазе рэчы, у значнай меры з элементамі рыторыкі або матывамі, многа разоў выкарыстанымі іншымі паэтамі, як, напрыклад, «Географ» або «Вялікі спіс». Гэтыя вершы напісаны і на важную тэму, і шчыра, але, відавочна, у самым пачатку свайго існавання ў друкаваным выглядзе не вызначаліся ні навізной задумы, ні індывідуальным почыркам аўтара.

Найбольш поўна паэтычны талент Аляксея Зарыцкага выявіўся, як нам здаецца, у паэмах «Аповесць пра залатое дно», «На дзвінскіх парогах», «Пяцёра», «Таварыш Саша».

«Аповесць пра залатое дно» — твор, значны па тэме і напісаны па-майстэрску. Тут найбольш поўна выявіліся сілы і магчымасці майстра эпічнага жанра, асаблівасці яго творчай манеры. М. Ціханаў адзначаў у паэме «вельмі цікавы сплаў сатыры, лірыкі і апавядальнасці», «складаную і дакладную кампазіцыю».

Твор пачынаецца дынамічна, мы адразу ж трапляем у атмасферу жыцця яго герояў, у самую сутнасць канфлікту паміж маладым вучоным-патрыётам Якубам Шацілам і прайдзісветам у навуцы Віктарам Шпунтам, які здолеў быў на нейкі час абылгаць у вачах старога прафесара Антона Кузьміча Крушыны свайго «калегу». Пра паэму многа пісалі ў свой час (Аркадзь Куляшоў, Барыс Бур'ян). Мы падкрэслім толькі, што створаныя Аляксеем Зарыцкім у ёй вобразы і адлюстраваныя тут канфлікты — жыццёвыя. Да ціханаўскай характарыстыкі можна дадаць яшчэ чацвёрты элемент «сплава» — публіцыстычнасць. Твор актыўна ўмешваецца ў рэчаіснасць, дапамагае ў барацьбе супраць тых, «што выгляд робяць, быццам нешта робяць», — розных Шпунтоў, якія, на жаль, не вывеліся і сёння.

У галерэі лепшых вобразаў, створаных Зарыцкім, — Саша Пінчук — змагар-камуніст («Таварыш Саша»), савецкі юнак-плытагон і дзяўчына-парабчанка з буржуазнай Латвіі, якая на пытанне «Як жыць?» знаходзіць адказ: «так, як Дзвіна, што да мора бяжыць, ірвецца на вольны прасцяг праз парогі» («На дзвінскіх парогах»), кашуб Сойц, мазур Ян Яцына, рабочы—ткач Чэслаў Смаль, цыркавы артыст Юзік Швэд ды і сам апавядальнік з паэмы «Пяцёра». Гэтыя вобразы, як і вобраз Якуба Шацілы, сведчаць, што Зарыцкі любіць пісаць пра людзей мужных і неспакойных, моцных духам, здольных пераадольваць любыя цяжкасці ў працы, барацьбе. У паэмах «Пяцёра» і «На дзвінскіх парогах» асабліва моцна гучаць матыў дружбы народаў, тэма патрыятызму.

Праўда, нельга не адзначыць, што ў такой, напрыклад, паэме, як «На дзвінскіх парогах», апісанні займаюць несуразмерна многа месца ў параўнанні з матэрыялам, які адлюстроўвае непасрэдна само дзеянне, пададзенае часта «скорапісам». У далейшым паэт, на нашу думку, пераадольвае гэты недахоп. Успомнім хаця б паэму «Антон Шаплыка», якая не ўвайшла ў кнігу.

Перачытваючы напісанае Аляксеем Зарыцкім, заўважаеш, што ад зборніка да зборніка, ад твора да твора расце яго патрабавальнасць да сябе.

Аляксей Зарыцкі сустракае сваё пяцідзесяцігоддзе поўны творчых сіл.

Трэба спадзявацца, што ён неўзабаве парадуе чытачоў новымі высокамастацкімі творамі, як і заўсёды, непарыўна звязанымі з нашым імклівым поступам наперад.

Ул. БОЙКА.

## Прывітанне юбіляру

22 сакавіка споўніцца пяцьдзесят год з дня нараджэння пісьменніка Аляксея Зарыцкага.

Прэзідыум праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі накіраваў юбіляру віншаванне, у якім гаворыцца:

«Дарагі Аляксей Аляксандравіч!

Мы, твае сябры і паплечнікі на ніве літаратурнай, горача вітаем, ад усяго сэрца віншуем цябе, аднаго з таленавітых нашых паэтаў, з 50-годдзем з дня нараджэння.

Яшчэ падлеткам ты адчуў сілу і характар паэтычнага слова і ўзяў яго сабе ў дарогу. Ты пачынаў сваё працоўнае жыццё электраманцёрам на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце. Там ты ўбачыў прыгажосць працы і ўпершыню адчуў натхнёнасць рабочага калектыву. Разам са сваімі аднагодкамі, старэйшымі і малодшымі баявымі сябрамі ты мужна прайшоў суровыя дарогі Вялікай Айчыннай вайны. Маючы багаты жыццёвы вопыт, валодаючы цудадзейнай сілай паэтычнага слова, ты стварыў выдатныя вершы і паэмы, у якіх расказаў аб гераічных баявых справах савецкіх людзей, пра іх вялікае працавітае жыццё, пра іх гарачыя сэрцы і залатыя рукі. За гэта заўсёды ўдзячны табе чытачы. Гэтаму радуемся мы, твае сябры па творчай працы.

Ад шчырага сэрца жадаем табе, дарагі Аляксей Аляксандравіч, добрага здароўя, новых творчых радасцей, новых кніг аб слаўных днях нашай сучаснасці!».

---

## П'еса пачынае жыццё

**У Слонімскім народным тэатры ідуць рэпетыцыі спектакля па п'есе І. Шамякіна «Выгнанне блудніцы».**

Як звычайна, з новай пастаноўкай на сцэну прыйшлі і новыя акцёры. Адну з галоўных роляў — даярку Галю іграе вучаніца 10 класа Слонімскай сярэдняй школы Ія Шкодава. У ролі маці Галі — выкладчыца беларускай мовы і літаратуры той жа школы Феафанія Лявонцеўна Ракевіч. Над вобразам калгаснага электраманцёра Івана працуе слесар шынарамонтнага завода Пятро Талерчык.

Прэм'ера новага спектакля намечана на першамайскае свята.

Ул. КУШНЕР.

**На здымку:** Ія Шкодава і Ф. Ракевіч на рэпетыцыі.

Фота аўтара.

---

# У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

Адбылося пасяджэнне прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў БССР.

Адказны сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Мікола Ткачоў зачытаў для абмеркавання праект вучэбнага плана ўніверсітэта культуры. Створана камісія, якая ўнясе папраўкі і прапановы ў праграму па беларускай дарэвалюцыйнай і савецкай літаратуры.

Іван Грамовіч інфармаваў аб мерапрыемствах па ўшанаванню памяці пісьменнікаў, што загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны. Іх імёны будуць занесены на мемарыяльную дошку ў доме Саюза пісьменнікаў БССР. Узнята пытанне, каб пасмяротна прыняць у саюз некаторых пісьменнікаў, якія загінулі. Творчыя секцыі саюза падрыхтуюць да выдання ў 1965 г. зборнік, прысвечаны памяці гэтых літаратараў.

Абмеркаваны мерапрыемствы па правядзенню Тыдня дзіцячай літаратуры, які адбудзецца неўзабаве і ў якім прымуць актыўны ўдзел беларускія пісьменнікі, а таксама іншыя пытанні.

У члены саюза прыняты драматург Іван Козел, празаік Іван Новікаў, паэт Валянцін Тарас і драматург Пётр Харкоў.

---

# *На кніжнай паліцы*

Выйшлі з друку і паступілі ў продаж наступныя кнігі, выдадзеныя Дзяржаўным выдавецтвам БССР.

**Багуміл Ржыга.** Паездка Ганзіка ў вёску. Пераклад з чэшскай мовы. Кніга напісана для дзяцей малодшага ўзросту. Пераклад А. Быкоўскай. Малюнкі А. Кашкурэвіча. Тыраж 5.200 экз., стар 68. Цана 11 кап.

**Берды Кербабаеў.** Батыр. Апавяданні для сярэдняга ўзросту. Пераклад з туркменскай мовы А. Рылько. Малюнкі Б. Заборава. Тыраж 8 тыс. экз., стар. 116. Цана 13 кап.

**Жылі тры браты...** Беларуская народная казка. Для дашкольнага ўзросту. Апрацоўка А. Якімовіча. Малюнкі Г. Якубені. Тыраж 40 тыс. экз., стар. 16. Цана 6 кап.

**Ніл Гілевіч.** Сіні домік, сіні дом... Загадкі для дашкольнага ўзросту. Малюнкі Е. Лось. Тыраж 58 тыс. экз., стар. 24. Цана 14 кап.

**Антанас Венцлава.** Дзень нараджэння. Раман. Пераклалі з літоўскай мовы С. Дзяргай і М. Татур. Афармленне і гравюры на дрэве мастака С. Красоўскага. Тыраж 5 тыс. экз., стар. 396. Цана 83 кап.

**А. Бажко.** Карвіга пакідае хутар. Вершаваная аповесць. Мастак П. Калінін. Тыраж 2 600 экз., стар. 64. Цана 13 кап.

**Канстанцін Цітоў.** Локаць сябра. На рускай мове. Паэма і вершы. Мастак Л. Прагін. Тыраж 2 600 экз., стар. 88. Цана 15 кап.

**Данута Бічэль.** Дзявочае сэрца. Вершы. Мастак Е. Лось. Тыраж 2 100 экз., стар. 48. Цана 5 кап.

ТЭАТРАЛЬНЫЯ ПРЭМ'ЕРЫ

# Вобразы пушкінскай казкі

Балетны спектакль «Казка пра мёртвую царэўну і сем асілкаў» (кампазітары А. Лядаў і В. Дзешавоў), дзякуючы ўдумлівай працы харэографа, вылучаецца сугучнасцю зрокавага вобраза рамантычнай казцы Пушкіна, акрэсленасцю рускага нацыянальнага стылю. Ёсць тут выразныя музычна-сцэнічныя партрэты. Свежасць і творчая культура ўласцівы ўсёй сцэнічнай кампазіцыі. Мноства карцін і эпізодаў успрымаюцца не раз'яднана, а ў сінтэзе, гарманічна (аўтары лібрэта Г. Ягфельд і А. Андрэеў).

Тэатр нідзе не адыходзіць ад лагічнай і эмацыянальнай паслядоўнасці развіцця асноўных падзей і характараў пушкінскага твора. Казка «прачытана» ўважліва, чула, з мастацкім тактам.

Ідэі перамогі праўды над крыўдай, шчырасці над хлуснёй, дабра і чалавечнасці над дрэнным і заганным у псіхіцы людзей глыбока ўвасоблены на сцэне.

У танцах класічных і характарных, сольных і ансамблевых—графічная дакладнасць ліній, скульптурная выразнасць. Танцы ў пераважнай большасці не ілюстрацыйныя або «дывертысментныя», а адпавядаюць агульнай вернай задуме балетмайстра А. Андрэева і ўсяго пастановачнага калектыву (балетмайстар М. Стукалкіна, мастак Е. Чамадураў, дырыжор І. Абраміс).

Рускі нацыянальны характар спектакля адчуваецца ва ўсёй харэаграфічнай кампазіцыі і ў асобных яе элементах. Тут асабліва хочацца адзначыць жаночы танец заключнай карціны (хоць ён і пераклікаецца з падобным да яго па манеры рускім танцам дзяўчат у пастаноўцы вядомага ансамбля «Бярозка»), а таксама апошнюю варыяцыю царэўны, дзе агульнавядомая класічная лексіка з'яднана з паэтычным рускім фальклорным каларытам.

Складаны вобраз царыцы-мачыхі, разумнай і гордай, злоснай і помслівай жанчыны, таленавіта ўвасоблены маладой балярынай А. Карзянковай. На сцэне як бы ажылі пушкінскія радкі:

Высока, стройна, бела,
И умом и всем взяла,
Но зато горда, ломлива,
Своенравна и ревнива.

У гэтым партрэце найбольш сінтэзаваны тэмпераменты і дзейсны сюжэтны танец з натхнёным драматызмам. Сістэма К. Станіслаўскага зноў пацвярджае сваю жыццёвасць і на балетнай сцэне.

Высакароднасцю і душэўным харaством, мяккай сардэчнасцю і ветлівай, чароўнай усмешкай, наіўнай летуценнасцю і «кротким нравом» прываблівае «белатварая» царэўна (артыстка І. Савельева). Хацелася б, аднак, каб І. Савельева глыбей раскрыла драматычныя і лірычныя перажыванні сваёй гераіні. У музыцы, і асабліва ў пушкінскай казцы, больш багатая і разнастайная эмацыянальная гама, чым у вобразе, створаным артысткай.

Салісту В. Давыдаву (Елісей) варта было б, падобна таму, як ён зрабіў у спектаклі «Сцежкаю грому», адмовіцца ад не зусім плённай традыцыі галантнага балетнага кавалера з яго манернасцю. І тады вобраз каралевіча Елісея загучаў бы больш мужна і рамантычна.

Добрым словам можна ўспомніць Чарнаўку—Б. Карпілаву, Дружка—Г. Мартынава, ансамбль кардэбалету.

Спектакль, хоць не зусім бездакорны, не пакідае гледача абыякавым і выклікае чулы водгук у яго сэрцы.

**На здымку:** пасля спектакля. Мастак **Е. Чамадураў** віншуе артыстаў **І. Савельеву** (царэўна) і **В. Давыдава** (Елісей) з прэм'ерай.

Фота **Ул. Крука.**

# *ПРАЕКТ АПУБЛІКАВАНЫ.*
## ДАВАЙЦЕ АБМЯРКУЕМ

Настаўнік, асабліва той, што працуе з вучнямі малодшых класаў, павінен дасканала ведаць дзіцячую літаратуру. Гэта — бясспрэчная ісціна. І калі на справе часта бывае зусім не так— вінаваты тут не толькі настаўнік.

Да нядаўняга часу ў вышэйшых навучальных установах дзіцячая літаратура зусім не выкладалася, ды і цяпер яшчэ выкладаецца не на ўсіх філалагічных факультэтах педагагічных інстытутаў. Нават колькасць гадзін курса дзіцячай літаратуры на факультэтах пачатковай школы і бібліятэчным — недастатковая, каб будучы настаўнік і бібліятэкар атрымалі добрую падрыхтоўку па гэтай дысцыпліне. Няма падручнікаў, хрэстаматый, дапаможнікаў па дзіцячай літаратуры, па кіраўніцтву дзіцячым чытаннем.

Вось чаму праграма па дзіцячай літаратуры, якая нядаўна выйшла з друку *), прыцягнула ўвагу спецыялістаў.

Праграма (яна выдадзена як праект) складзена кандыдатам філалагічных навук М. Яфімавай і ахоплівае асноўныя перыяды развіцця рускай і беларускай дзіцячай літаратуры.

Аўтар праграмы ў асноўным прытрымліваецца перыядызацыі, прынятай А. Бабушкінай у кнізе «Гісторыя рускай дзіцячай літаратуры». Праўда, выклікае пярэчанне перыядызацыя савецкай рускай і беларускай дзіцячай літаратуры, прапанаваная М. Яфімавай.

Заканчваецца праграма перыядам «Савецкая дзіцячая літаратура пасляваеннага часу». Такім чынам, перыяд «пасляваеннага часу» ахоплівае літаратуру часоў аднаўлення народнай гаспадаркі і далейшага развіцця яе, а таксама перыяд разгортвання барацьбы за пабудову камуністычнага грамадства ў нашай краіне. Назва «пасляваенны перыяд» механічна ўжываецца ў многіх падручніках. Калі раней гэты тэрмін быў заканамерны, дык цяпер ён траціць сваю канкрэтнасць і патрабуе ўдакладнення.

Складальніца праграмы многа папрацавала, сістэматызаваўшы вялікія здабыткі рускай і беларускай дзіцячай літаратуры. Каштоўна і тое, што М. Яфімава прапануе, акрамя вывучэння твораў, знаёмства з біяграфіямі вядомых дзіцячых пісьменнікаў. У праграму ўключан агляд перыядычных дзіцячых выданняў на Беларусі, пачынаючы з часопіса «Зорка» (1921) і першай газеты школьнікаў «Піянер Беларусі» (1929).

Добра і тое, што ў праграме даецца спіс твораў замежнай дзіцячай літаратуры. Можна было б толькі параіць аўтару дапоўніць бібліяграфію найбольш значнымі артыкуламі аб беларускай дзіцячай літаратуры з перыядычнага друку. Гэта неабходна зрабіць, бо няма дапаможнікаў па нашай дзіцячай літаратуры. Варта ўключыць у спіс літаратуры і матэрыялы партыйных з'ездаў, з'ездаў і пленумаў Саюза пісьменнікаў СССР і БССР, рашэнняў камсамольскіх органаў.

Выкажам некаторыя заўвагі і прапановы па асобных раздзелах праграмы.

У «Тлумачальнай запісцы» да праграмы аўтар гаворыць, што мэта выкладання курса — «азнаёміць» будучых настаўнікаў з дзіцячай літаратурай. Але ж, здаецца, мэта ў тым, каб даць студэнту трывалыя веды ў гэтай галіне, практычныя навыкі і ўменне аналізаваць мастацкі твор. Будучы настаўнік павінен мець добры эстэтычны густ, любіць літаратуру і сваю любоў перадаць выхаванцам.

Раздзел «Вусная народная творчасць у чытанні дзяцей» складальніца абмежавала толькі казкамі. Вядома, казку вельмі любяць дзеці малодшага школьнага ўзросту, але ўсё ж абмяжоўваць фальклор творамі аднаго жанра — няправільна. Пажадана ў праграму ўключыць песні, загадкі, прыказкі, прымаўкі.

Не зусім удала падабраны і некаторыя казкі. Напрыклад, прапануецца беларуская казка «Пану навука», якая будзе цяжкай для вучняў пачатковых класаў. Дарэчы, яна ў школьнай праграме прапануецца вучням 5 класа. А чаму б малодшым школьнікам не параіць такія казкі, як «Разумная дачка», «Лісіца-хітрыца» і інш. Трэба было аўтару ў гэтым раздзеле назваць і сучасныя народныя казкі.

М. Яфімава чамусьці ўключыла ў праграму і шмат такіх твораў беларускіх пісьменнікаў, якія чытаюцца вучнямі сярэдняга і старэйшага ўзросту. Гэта, вядома, добра. Настаўнік пачатковых класаў, безумоўна, не можа абмежавацца веданнем твораў для дзяцей малодшага школьнага ўзросту. Але трэба ўсё ж у першую чаргу паўней прадставіць творы, якія найбольш зацікавяць вучняў пачатковых класаў.

У раздзел «Творы беларускіх аўтараў другой палавіны XIX стагоддзя ў чытанні дзяцей» уключана «Пінская шляхта» Дуніна-Марцінкевіча, «Бог няроўна дзеле», «Чаго бяжыш, мужычок?», «У астрозе Ф. Багушэвіча. І чамусьці абмінаюцца вершы Ф. Багушэвіча і А. Гурыновіча для дзяцей малодшага ўзросту. У раздзеле «Цяжкасці і перашкоды на шляху стварэння беларускай нацыянальнай літаратуры для дзяцей» рэкамендуюцца толькі некаторыя з твораў М. Багдановіча і Зм. Бядулі. Сама назва раздзела не раскрыта і выглядае загадкава.

Аўтар мае рацыю, выдзяляючы асобна вывучэнне творчасці Я. Купалы, Я. Коласа, Зм. Бядулі, Я. Маўра і А. Якімовіча. Але гэтага недастаткова. Чаму не прадставіць шырэй творы для дзяцей такіх вядомых пісьменнікаў, як Я. Брыль, М. Танк, Э. Агняцвет? Забыты ў праграме і лепшыя дзіцячыя творы М. Лупсякова, А. Рылько і інш.

Трэба аўтару звярнуць увагу і на пытанні эстэтычнага, атэістычнага выхавання дзяцей.

Неабходна, каб у праграме былі адлюстраваны не толькі лекцыйныя, аглядныя тэмы, але і практычныя, семінарскія заняткі.

**І. РАЗАНАЎ,**
**дырэктар рэспубліканскага Інстытута павышэння кваліфікацыі кадраў народнай асветы.**

*) **Праграма па дзіцячай літаратуры для факультэтаў пачатковай школы, педагагічных інстытутаў БССР.** Выдавецтва Белдзяржуніверсітэта імя Ул. І. Леніна. Мінск. 1960.

# Дэбют маладых спявачак

У зале Беларускай кансерваторыі адбыўся адкрыты канцэрт студэнтаў вакальнага факультэта (клас старшага выкладчыка Н. Навіцкай).

Увагу аматараў музыкі прыцягнула праграма канцэрта, у якую былі ўключаны творы заходніх кампазітараў-класікаў Моцарта, Баха, Глюка, Гендэля, Джардана, Даніцэці.

Зразумела, не ўсё было бездакорным у спяванні маладых выканаўцаў. Але ўдзельнікі канцэрта ў пераважнай большасці выявілі пэўнае выканаўчае майстэрства, адчуванне стылю твораў і добры музычны густ.

Спадабаліся слухачам дуэт з канцэрта № 4 Баха (студэнткі Т. Казлова і Г. Чарняўская), арыя з оперы Гендэля «Рынальда» ў выкананні Т. Казловай. Добра праспявала студэнтка К. Карабіцына творы «Фіялка» Моцарта і «Цыганка» Даніцэці.

Асабліва моцнае ўражанне пакінула Г. Чарняўская, уладальніца прыгожага меца-сапрана. Выконваючы арыю для альта з кантаты № 20 Баха і «Мелодыю» Глюка, яна парадавала добрай артыстычнай манерай.

Поспеху маладых вакалістак у значнай меры спрыяла выступленне акампаніятараў А. Багданавай і Д. Дворжыц.

**Г. ВАСІЛЬЕЎ.**

# Калі ўражанне раздвайваецца

**«ТВОЙ СВЕТЛЫ ШЛЯХ» У ТЭАТРЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ**

□ □

Не адзіным хлебам жыве чалавек. На гэта часам не зважаюць асобныя кіраўнікі калгасаў, шкадуючы грошай на будаўніцтва клуба, бібліятэкі, хаты-чытальні. Такія калгасы багацеюць дзеля самога багацця. Пра адзін з іх А. Маўзон і напісаў п'есу «Твой светлы шлях».

Калгас, якім кіруе Кашуба, — лепшы ў раёне. Як дбайныя гаспадары, калгаснікі будуюць добрыя памяшканні для жывёлы, многія з іх паставілі новыя дамы, пакуплялі матацыклы. І разам з тым у вёсцы няма добрага клуба, ды і праўленне арцелі туліцца ў невялікім, халодным будынку.

У калгасе шмат моладзі, якой мала багатага працадня. Яна хоча жыць прыгажэй, цікавей і больш змястоўна. І таму хлопцы і дзяўчаты горача падтрымліваюць праект перабудовы вёскі, распрацаваны студэнткай палітэхнічнага інстытута Таняй. Кашуба ж лічыць, што адзіная мэта праўлення калгаса — усяляк павышаць дабрабыт калгаснікаў, а клуб — гэта выкінутыя грошы, «з яго капейкі не возьмеш». Разыходжанні поглядаў перарастаюць у канфлікт, які ўцягвае ў сваю сферу і кіруючых работнікаў раёна. Аўтар імкнецца давесці ўсёй логікай вобразаў і падзей, што гаворка ідзе не проста аб вырашэнні гаспадарчай задачы. Як павінен жыць чалавек працы — вось асноўная праблематыка п'есы.

Хочацца пачаць з таго, што радуе ў спектаклі Тэатра імя Янкі Купалы.

Артыст С. Хацкевіч добра зразумеў вобраз Кашубы. Ён малюе героя рэалістычна, глыбока пераконаным у правільнасці сваёй пазіцыі. Калгас дабіўся поспехаў. Кашуба вырашыў, што гэта толькі яго заслуга; ён зазнаецца, пачынае камандаваць, не прыслухоўваецца да калгаснікаў. Вопытны і сумленны старшыня, ён, каб зрабіць па-свойму, вымушаны абапірацца на людзей з уласніцкімі настроямі. Не выпадкова Кашуба сутыкаецца не толькі з моладдзю, але і з сакратаром райкома партыі Надзёжным, які горача падтрымлівае праект перабудовы вёскі.

Ролю Надзёжнага шчыра сыграў у спектаклі А. Казачок, стварыўшы вобраз разумнага, прынцыповага і смелага камуніста, абаяльнага і энергічнага чалавека. Верыш, што такі чалавек здольны павесці за сабой людзей. «Трошкі гарачая, але галава»,—гавораць пра яго калгаснікі.

Калгасны сход, вострыя сутычкі на ім розных поглядаў на жыццё — удача і тэатра і аўтара. Яе правільна ацанілі і гледачы, бо гэтыя сцэны вельмі актыўна прымаюцца імі.

Прынцыповай удачай спектакля трэба лічыць вобраз першага сакратара райкома партыі Каліны ў майстэрскім выкананні В. Краўцова. Мы знаёмімся з сакратаром у другой дзеі, у райкомаўскім кабінеце. Каліна спачатку выклікае сімпатыю. Перад намі заслужаны, убелены сівізной чалавек, які ўважліва слухае людзей і, здаецца, прыслухоўваецца да іх думак. Паступова, аднак, яго характар раскрываецца з іншага боку. Гэта кіраўнік, які, як кажуць, едзе не на кірмаш, а з кірмашу. Яго метады кіраўніцтва не адпавядаюць новым запатрабаванням жыцця.

Вобраз Каліны народжан шчырымі роздумамі над жыццём. Цяпер, калі партыя і яе Цэнтральны Камітэт прыкладваюць сапраўды гіганцкія намаганні, каб крута ўзняць ўсе галіны народнай гаспадаркі, патрабуецца асабліва шырокі прастор народнай ініцыятыве. І многае тут залежыць ад партыйных работнікаў, іх запалу, умення абуджаць і накіроўваць энтузіязм мас. Каліна не адпавядае ролі, якая ўскладзена на яго. Яму не стае вострага адчування жыцця, смеласці і партыйнай прынцыповасці. У мінулым заслужаны чалавек, удзельнік калектывізацыі і былы партызанскі камандзір, цяпер ён больш за ўсё дбае пра асабісты спакой, і таму ініцыятыва мас палохае яго.

Іменна пра такіх кіраўнікоў гаварыў зусім нядаўна М. С. Хрушчоў, і гэта надае вобразу надзённасць у лепшым сэнсе гэтага слова. Асабліва ярка раскрываецца характар Каліны ў сутычках з другім сакратаром райкома Надзёжным.

Напісаныя пераканальна вобразы Кашубы, Надзёжнага, Каліны знайшлі ў тэатры яркае раскрыццё. Гэта жывыя людзі, кожны з якіх мае выразныя індывідуальныя рысы.

Ёсць у спектаклі нейкая такая задзёрыстасць, якую ўносіць у яго калгасная моладзь (Тацяна, Кацярына, Янка, Пятро, Марыся). Удзел моладзі надае падзеям своеасаблівую прыўзнятасць, узрушанасць і ў некаторых месцах ратуе спектакль ад сумных і назойлівых сентэнцый, якімі залішне перасыпана п'еса.

І вось тут да месца размова аб тым, што не радуе ў п'есе і ў спектаклі.

Справа ў тым, што аўтар не выкарыстаў усіх магчымасцей паглыблення канфлікту п'есы за кошт развіцця характараў і больш напружанай барацьбы ўдзельнікаў падзей.

Дзеянне ў спектаклі недастаткова дынамічнае, часам як бы «спускаецца на тармазах». Паказаўшы, як нараджаецца вельмі жыццёвы канфлікт паміж Кашубам і перадавымі калгаснікамі, аўтар пераносіць вырашэнне яго ў кабінет першага сакратара райкома Каліны. А астатнія героі, у тым ліку аўтар праекта Тацяна, толькі пасіўна сочаць за лёсам праекта, радуюцца або засмучаюцца ў залежнасці ад таго, што скажуць аб ім у «кіруючым» кабінеце.

Не робіць сур'ёзных захадаў і Кашуба, каб адстаяць свой пункт гледжання. Занадта хутка і лёгка здае пазіцыі Каліна. Адсутнасць моцнага праціўніка, сур'ёзных перашкод замінае ўсебакова паказаць і Надзёжнага, бо яму няма дзе праявіць характар у дзеянні. Пра многія яго душэўныя якасці мы толькі здагадваемся альбо чуем са слоў іншых дзеючых асоб.

Незавершаны і іншыя сюжэтныя лініі п'есы і спектакля. Цікавай магла быць сітуацыя Тацяны і Ганчара. Тацяна парвала з мужам, каб выйсці на шырокія прасторы творчага жыцця, але ўся гэтая гісторыя выглядае крыху прыземленай, здробненай і таксама не даведзенай да канца.

Усё гэта разам надае спектаклю некаторую дваістасць. З аднаго боку, спектакль вабіць вастрынёй жыццёвых праблем, сугучных нашым дням, з другога боку — мастацкая незавершанасць, дэкларацыйнасць асобных вобразаў.

Але перамагае ўсё ж атмасфера актыўнасці, духоўнага ўздыму людзей сённяшняй калгаснай вёскі. Гэтаму ў многім дапамагаюць вобразы моладзі — прывабнай і летуценнай Тацяны (М. Захарэвіч), якая хоча бачыць сваю вёску культурнай і прыгожай; смелай і вясёлай Кацярыны (Л. Давідовіч), дэмабілізаванага марака Янкі (В. Белахвосцік), Марысі (З. Зубкова), Пятра (Г. Аўсянікаў) і інш. Усіх іх аб'ядноўвае прыгожая і ўзнёслая мара аб будучым, адданая любоў да роднага калгаса. Верыш, што яны дамогуцца свайго, што будаўніцтва новай вёскі — зусім недалёкае будучае.

Дзея спектакля адбываецца ў рэальнай атмасферы, мы бачым герояў у іх штодзённым жыцці, з іх звычайнымі клопатамі і радасцямі.

Акцёры паставіліся да сваіх ролей з усёй сур'ёзнасцю. Тэмпераментна сыграла невялікую ролю Настассі, старшыні суседняга калгаса, народная артыстка СССР Л. Ржэцкая. Яе Настасся шчырая, простая, неяк адразу вабіць сваёй унутранай пераканансцю і прынцыповасцю. Выклікае апладысменты дасціпная і яркая ігра Г. Глебава, які выконвае ролю старога цесляра Тараса Іванавіча. Каларытны вобраз Аўдоцці ў выкананні В. Пола.

Рэжысёр Л. Рахленка шукаў ключ да спектакля ў спалучэнні публіцыстычнасці з рэалістычнымі, бытавымі дэталямі. У спектаклі ёсць добрыя лірычныя сцэнкі, шмат трапных жанравых замалёвак. Але публіцыстычнасць спектакля мела б большую сілу, калі б драматург, у адным выпадку, не зводзіў канфлікт чалавечых характараў да спрэчкі па гаспадарчых пытаннях, а ў другім — не збіваўся на абстрактныя разважанні, пры якіх адыходзіць на другі план рэальная прычына канфлікту.

Вось гэтая дваістасць і замінае спектаклю стаць значнай з'явай у нашым тэатральным жыцці.

**Ан. ШАЎНЯ.**

**На здымку:** сцэна са спектакля «Твой светлы шлях». У ролях: Каліны—артыст **В. Краўцоў** (справа), Надзёжнага—артыст **А. Казачок.**

*ПА СЛЯДАХ НЕАПУБЛІКАВАНЫХ ПІСЕМ*

## Артысты паедуць у Падстарынь

Чытач нашай газеты І. Макарэвіч у пісьме ў рэдакцыю скардзіўся на тое, што ў яго вёску Падстарынь (Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобласці) рэдка прыязджаюць з выступленнямі прафесіянальныя мастацкія калектывы.

Упраўленне па справах мастацтва Міністэрства культуры БССР (куды было накіравана пісьмо рэдакцыяй), дало ўказанне філармоніі, Брэсцкаму тэатру імя ЛКСМБ і Тэатру лялек БССР палепшыць абслугоўванне вёскі Падстарынь Івацэвіцкага раёна і іншых раёнаў Брэсцкай вобласці.

## Дзе фільмы нашай студыі?

*(Пісьмо ў рэдакцыю)*

У сельгасарцелі «Бальшавік» Івацэвіцкага раёна часта дэманструюцца кіначасопісы «Навіны будаўніцтва», «Савецкі спорт» і інш., больш рэдка — кіначасопісы на сельскагаспадарчыя тэмы. Усе гэтыя фільмы вытворчасці Маскоўскай, Ленінградскай або іншых студый дакументальных і навукова-папулярных фільмаў краіны. Часопісы ж студыі «Беларусьфільм» нам не паказваюць.

Ужо даўно выйшаў на экраны фільм беларускіх кінематаграфістаў «Праўда аб сектантах-пяцідзесятніках». Аднак у нас яшчэ не бачылі яго. А між тым у вёсцы ёсць секта баптыстаў, і гэты фільм дапамог бы нам выкрываць тых, хто яшчэ і сёння атручаны рэлігійным дурманам. Новыя мастацкія фільмы ў калгасе дэманструюцца амаль праз 5—6 месяцаў пасля іх выхаду на экран.

З таго часу, як кінаперасоўкі перайшлі на вузкую плёнку, рэдка даводзіцца нам глядзець каляровыя фільмы.

**І. МАКАРЭВІЧ.**

# СТРАЧАНЫЯ ПАЗІЦЫІ ТРЭБА ВЯРНУЦЬ

## СІМФАНІЧНЫ АРКЕСТР У ГЭТЫМ СЕЗОНЕ

□

Калі на рэкламных шчытах Мінска з'яўляюцца афішы з прозвішчам вядомага савецкага ці замежнага выканаўцы, назвай музычнага калектыву, з цікавай праграмай сімфанічнага канцэрта, то аматары музыкі ўжо ведаюць, што пра білет на канцэрт трэба патурбавацца загадзя. Гэта характарызуе не толькі высокія эстэтычныя густы народа, але і пэўныя вынікі папярэдняй канцэртнай дзейнасці музычных калектываў Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

За апошнія гады наведвальнікі сімфанічных канцэртаў у нашым горадзе прывыклі, што кожны новы сезон прыносіць цікавае: сустрэчы з выдатнымі савецкімі і замежнымі калектывамі, салістамі, дырыжорамі, знаёмства з творамі сучасных кампазітараў і палотнамі музычнай класікі, якія раней ніколі не выконваліся ў сталіцы рэспублікі. Таму з кожным годам узрастае цікавасць да канцэртаў, а паралельна павышаюцца патрабаванні слухачоў да якасці выканання і зместу праграм. Як жа праходзіць сёлетні канцэртны сезон у Мінску і што новага прынёс ён нашай грамадскасці?

Першыя шэсць месяцаў новага сезона не апраўдалі спадзяванняў аматараў музыкі. Праўда, дырэкцыя Белдзяржфілармоніі здолела запрасіць да ўдзелу ў канцэртах выдатныя музычныя калектывы і асобных салістаў. Мінчане пазнаёміліся з выканаўчым майстэрствам Сібірскага і Закарпацкага народных хораў, Кёльнскага камернага аркестра, квартэта Аўрамава з Балгарыі, духавога аркестра Мічыганскага ўніверсітэта, некалькіх дырыжораў, многіх савецкіх майстроў мастацтва і зарубежных выканаўцаў. Усе яны значна ажывілі канцэртныя праграмы. Але тым больш выразна выступілі недахопы, уласцівыя апошняму зімоваму сезону філармоніі. Пра галоўныя з іх, звязаныя з работай старэйшага музычнага калектыву рэспублікі — сімфанічнага аркестра, — і хочацца пагаварыць.

Калі ў мінулыя гады аркестр радаваў шпаркім ростам выканаўчага майстэрства, паляпшэннем строю і творчай дысцыплінай, дык сёлета рост не толькі спыніўся, а, наадварот, калектыў страціў многае з таго, што было набыта ім раней. Так, напрыклад, значна пагоршыўся строй аркестра, асабліва яго духавой групы. Аркестрантам часта здраджвае пачуццё ансамблю, менш тонкай стала нюансіроўка і больш неахайным — гук. Усё гэта прывяло да таго, што некаторыя канцэрты калектыў правёў ніжэй сваіх магчымасцей, а з некаторымі проста не справіўся, як гэта было пры выкананні сімфоніі «Фауст» Ліста ў канцэрце, калі дырыжыраваў А. Стасевіч.

Адзін з яскравых паказчыкаў прафесіянальнага ўзроўню любога музычнага калектыву — майстэрства акампанементу. Гэтым майстэрствам сімфанічны аркестр Белдзяржфілармоніі валодаў дасканала. Тым больш прыкра, што ў сёлетнім сезоне асобныя салісты засталіся незадаволенымі сваімі творчымі сустрэчамі з нашым калектывам. Асабліва гэта прыкметна было ў час выступлення ў Мінску выдатнага савецкага віяланчаліста Д. Шафрана. Саліст упершыню выконваў у нас Канцэрт для віяланчэлі з аркестрам І. Баха, Канцэрт рэ-мажор І. Гайдна і «Сімфонію-канцэрт» для віяланчэлі з аркестрам С. Пракоф'ева. Зразумела, такая разнастайная і змястоўная праграма выклікала цікавасць у слухачоў. Але якое ж вялікае было іх расчараванне, калі аркестр у час выканання не здолеў знайсці кантакт з салістам і, канчаткова страціўшы пачуццё ансамбля, не дапамагаў, а перашкаджаў яму іграць.

За шэсць месяцаў амаль нічога новага не ўключылі ў рэпертуар аркестра яго штатныя дырыжоры В. Дуброўскі і М. Нерсесян. У час іх канцэртаў прагучала надзвычай мала буйных твораў сусветнай музычнай класікі. А некаторыя з іх паўтараліся. Двойчы за сезон прагучалі Пятая сімфонія Бетховена, Чацвёртая сімфонія Чайкоўскага, Трэці канцэрт для фартэпіяна з аркестрам Рахманінава і інш. Ніхто не супраць гэтых цудоўных твораў, але было б лепш замест паўтораў прапанаваць увазе слухачоў новае.

Не ўнеслі разнастайнасці ў канцэртны сезон і такія «ўдарныя» творы, як сімфанічныя паэмы «Дон Жуан» і «Вясёлыя прыгоды Ціля Уленшпігеля» Р. Штрауса і Другая сюіта з балета М. Равеля «Дафніс і Хлоя», якія добра вядомы слухачам па папярэдніх канцэртах (сюіта толькі ў канцы мінулага сезона выконвалася чатыры разы запар!).

Больш разнастайнымі былі праграмы канцэртаў, што правялі нашы госці — савецкія і замежныя дырыжоры. Многія творы з іх рэпертуару выконваліся ў Беларусі першы раз ці пасля вялікага перапынку. Так, мінчане ўпершыню пачулі Другую сімфонію Брамса, Канцэрт для віяланчэлі з аркестрам Шастаковіча і ўверцюру да оперы Вердзі «Сіла лёсу», якімі прадырыжыраваў маскоўскі дырыжор Г. Юдзін. З поспехам прайшло і выступленне польскага дырыжора Зігмунта Леташэўскага, які пазнаёміў слухачоў з Восьмай сімфоніяй Дворжака, харэаграфічнай паэмай П. Дзюка «Пэры» і сімфанічнай паэмай Я. Маклакевіча «Грунвальд». Упершыню прагучалі ў Мінску і творы, якія ўвайшлі ў праграмы двух канцэртаў фінскага дырыжора Таўна Хайнікайнена — Другая сімфонія Я. Сібеліуса, сюіта «Калевала» Кламі, «Варыяцыі на тэму Гайдна» Брамса і інш.

У пачатку сезона наша філармонія даволі часта ўключала ў праграмы сімфанічных канцэртаў творы беларускіх кампазітараў. Так, упершыню прагучала вакальна-сімфанічная паэма Г. Вагнера «Вечна жывыя», сюіта з балета Я. Глебава «Мара балярыны» і нанава перарэдагаваная аўтарам Трэцяя сімфонія Я. Цікоцкага. Акрамя таго, у праграмы адкрытых канцэртаў увайшлі Другая сімфонія і кантата «Беларусь» А. Багатырова, Канцэрт для фартэпіяна з аркестрам В. Жубінскай. Такі пачатак абяцаў, што сезон будзе плённым і для беларускіх кампазітараў. Аднак у далейшым творы беларускіх аўтараў у адкрытых канцэртах амаль зусім не выконваліся. Тое ж, што ўвайшло ў праграмы невялікіх юбілейных канцэртаў М. Аладава, П. Падкавырава і ў тэлевізійныя канцэрты для дзяцей, было выканана на нізкім мастацкім узроўні і не магло ні ў якой ступені задаволіць слухачоў. Усё гэта дае падставы меркаваць, што дырэкцыя і мастацкае кіраўніцтва філармоніі, галоўны дырыжор сімфанічнага аркестра мала чаго робяць для развіцця і папулярызацыі беларускай музыкі.

Паралельна з адкрытымі канцэртамі філармонія вядзе значную работу ў музычным лекторыі, універсітэтах музычнай культуры і працягвае распачаты ў мінулым годзе цыкл тэлевізійных канцэртаў-лекцый для дзяцей. Сімфанічны аркестр у лютым наладзіў справаздачны канцэрт для рабочых Мінскага аўтазавода ў чырвоным кутку кавальскага цэха, а ў сакавіку выступіў на Аршанскім ільнокамбінаце і ў паравозным дэпо Аршанскага чыгуначнага вузла. Удзел сімфанічнага аркестра ў лекцыях-канцэртах мае вялікае музычна-асветнае значэнне, але трэба сказаць, што да такіх канцэртаў калектыў амаль не рыхтуецца, выступае на сцэне ў няпоўным складзе, без належнай увагі і пачуцця адказнасці; таму яго выступленні пакідаюць жадаць лепшага.

Многія хібы бягучага канцэртнага сезона рэзка знізілі колькасць наведвальнікаў. Напрыклад, на сімфанічным канцэрце дырыжора М. Нерсесяна і саліста П. Серабракова 27 лютага прысутнічала толькі дзевяноста чалавек. І гэта ў зале, якая мае больш чым тысячу месц!

Чым жа выклікана такое становішча, што трэба зрабіць, каб сезон быў больш цікавым і змястоўным?

Патрэбна разнастайнасць, змястоўнасць канцэртных праграм. Калі ж уважліва прагледзець праграмы апошніх зімовых сезонаў філармоніі, заўважаецца іх стракатасць і рознастылёвасць. Амаль не сустракаюцца ў праграмах імёны кампазітараў Гайдна, Моцарта, Баха, ні ў адным з сезонаў не былі арганізаваны цыклы канцэртаў, прысвечаныя творчасці найбольш папулярных кампазітараў-класікаў. Рэдка і выпадкова трапляюць на пульты аркестрантаў партытуры савецкай і ў тым ліку беларускай музыкі. Разам з тым у некаторых канцэртах пераважае музыка Р. Штрауса, Равеля, Дзебюсі, творы, разлічаныя на знешні эфект, напісаныя ў надзвычай хуткім тэмпе і з падвоенай колькасцю духавых і ўдарных інструментаў. Выкананне такіх «грамабойных» партытур, з наўмысна складанай гармоніяй і громкім бразгатам літаўр, барабанаў і талерак у канцы, заўсёды выклікала апладысменты глядзельнай залы. Таму і на падрыхтоўку такіх твораў заўсёды трацілася вялікая колькасць рэпетыцыйнага часу (за кошт іншых—менш «ударных» твораў). А, як вядома, у хуткім тэмпе аркестранту лягчэй узяць фальшывую ноту, «змазаць» пасаж (прычым — зрабіць гэта непрыкметна). Вось чаму залішняе захапленне дырыжора такімі эфектнымі творамі ішло не на карысць аркестру.

Адмоўна адбілася на творчым росце калектыву і тое, што, падрыхтаваўшы адну так званую «асноўную» праграму на высокім узроўні, дырыжор зніжаў свае патрабаванні, і некалькі наступных канцэртаў былі шэрымі і нецікавымі. Злоўжыванне творамі са складанымі гармоніямі і падвойным складам выканаўцаў, калі ў агульным шуме музыканты не чуюць самі сябе, значна разладзіла строй аркестра і знізіла яго прафесіянальныя якасці.

Дрэнна адбіваецца на выканаўчым майстэрстве і творчым росце калектыву таксама тое, што яго галоўны дырыжор В. Дуброўскі даволі рэдка выступае ў канцэртах, мала працуе з аркестрам і часта на працяглы час выязджае з Мінска ў гастрольныя паездкі.

Музычная грамадскасць Беларусі чакае, што філармонія здолее зрабіць кожны новы сімфанічны канцэрт сапраўдным святам. Трэба неадкладна перагледзець канцэртныя праграмы, рэпертуарныя і рэпетыцыйныя планы, улічыўшы пры гэтым патрэбу ў пашырэнні рэпертуару сімфанічнага аркестра. Гэта дапаможа калектыву выраўняць строй і аднавіць добрыя выканаўчыя традыцыі.

Каб прафесіянальнае майстэрства калектыву павышалася планамерна, неабходна скласці прадуманы план штодзённай рэпетыцыйнай і канцэртнай работы і строга прытрымлівацца яго. Адметная рыса кожнага сапраўды таленавітага музычнага калектыву — высокі прафесіяналізм, які гарантуе аднолькава добрую якасць усіх без выключэння канцэртаў. Хочацца верыць, што сімфанічны аркестр Белдзяржфілармоніі набудзе такі прафесіяналізм, і ўсе яго выступленні, незалежна ад месца, будуць высокамастацкімі.

**Д. ЖУРАЎЛЕЎ.**

У Глыбоцкай музычнай школе таленавітыя дзеці калгасных працаўнікоў авалодваюць тэхнікаю ігры на баяне, фартэпіяна, домры, удзельнічаюць у школьным аркестры баяністаў і розных інструментальных ансамблях.

**На здымку:** выкладчык па класу баяна **В. Басаў** з вучнем **Ваням Тэліцам** з калгаса імя Энгельса.

**Фота і тэкст А. Срадзінскага.**

